


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 40 (1127) ГОД XXII БЕЛАСТОК 2 КАСТРЫЧНІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.


## Лялькі для дарослых

У нашых штодзённых меркаваннях так ужо прынялося: лялечны тэатр — гэта толькі для дзяцей, даросламу гледачу няма чаго ў ім шукаць! Каб поўнасцю перakaнацца, што такі погляд поўнасцю памылковы, даволі пабыць самому ў лялечным тэатры і панаглядаць якраз за дарослай публікай у ім. Зрэшты, дзве тэлевізійныя постаці — лялькі Яцак і Агатка колькі год забаўлялі нас, дарослых, зусім не горш, чым нашых дзетак-малалетак, пакуль не саступілі месца іншым спектаклям тэлевізійнага лялечнага тэатра. І гэта натуральна, што дарослыя цікавяцца лялечнымі спектаклямі.

— Папулярны савецкі акцёр і рэжысёр, тэарэтык тэатра С. Абразцоў лічыць, што наогул у тэатры постаць чалавека можа прадстаўляць толькі лялька, — заўважае дырэктар Беластоцкага лялечнага тэатра **Кшыштоф Рау.** — І гэта таму, што лялька не з'яўляецца чалавекам, а акцёр — гэта чалавек. Кожны ж чалавек, як вядома, мае свае індывідуальныя асаблівасці: рост, рысы твару, фігуру і г.д., што не дазваляюць яму поўнасцю пераўвасобіцца ў постаць, якую ён прадстаўляе на сцэне. Ляльку ж можна зрабіць такую, якую мы толькі сабе пажадаем, і таму яна можа больш праўдзіва выконваць пастаўленую перад ёю ролю. Наогул здаецца мне, што лялечны тэатр валодае значна большымі магчымасцямі, чым звычайны драматычны тэатр. Мы ажыццяўляем пастаноўкі п'ес, спецыяльна напісаных для лялечных тэатраў, як, напрыклад, творы Г. Лоркі, і ставім драмы ці камедыі з рэпертуару звычайных тэатраў, між іншым, творы С. Выспянскага, Б. Брэхта, С. Мрожка, Т. Ружэвіча. Прычым са значна лепшым эфектам, чым у традыцыйных тэатрах.



*Сцэна з „Няхай жыве Панч!“ Рэжысёр В. Фелэнчак, сцэнаграфія В. Юркоўскага, музыка Я. Дэрфеля.* *Фота Р. Сянько.*

— А што можна знайсці на старонках гісторыі пастановак для дарослых гледачоў, якія дагэтуль ажыццявіў Беластоцкі лялечны тэатр?

— Перш за ўсё трэба заўважыць, што наша асноўнае заданне — гэта пастаноўкі п'ес для малых гледачоў. Спектаклі для дарослых з'яўляюцца нашай дадатковай дзейнасцю. Разгарнуць яе шырэй пакуль што нам не дазваляюць вялікія цяжкасці з памяшканнямі, невялічкая наша акцёрская трупа ды страшэнная цесната ў майстэрнях. Але перамагаючы ўсе гэтыя неймаверныя перашкоды, мы ўсё ж здолелі нешта зрабіць для дарослых гледачоў. Першая наша пастаноўка для дарослых адбылася ў 1972 годзе. Паставілі мы „Картатэку“ Т. Ружэвіча — вялікі наш эксперымент і не меншая рызыка. Удаўся! Довад: гэтую п'есу ставілі мы толькі ў Беластоку на працягу мінулых пяці год аж сорак чатыры разы. Што і казаць, гэта запаліла нас да далейшай працы, і ў суме мы дагэтуль паставілі сем п'ес для дарослых гледачоў. І ўсе з добрым вынікам. Напрыклад, п'есу „Няхай жыве Панч!“ мы ўжо ставілі 60 разоў, у тым ліку звыш 30 у Беластоку, і заў-

Працяг на стар. 4

## Ламбардская даліна на Прапалаўшчыне

— Гэты хутар людзі звалі Прапалаўшчынай, бо што ні пасеялі — усё прападала, нават насенне не вярталася. Бачыце, тут далінка выпала такая: вясною з палёў пяці вёсак ваду ёю гоніць, а ўлетку ўсё спрытна выпальвае. Але я — чалавек упарты. Усе яе норавы спазнаў ды спосабы знайшоў, каб радзіла. Яшчэ перад вайною ў Крынках жыло шмат балаголаў, што трымалі коней і займаліся перавозкай. Ад іх, бывала, я ў год па сто вазоў гною вывозіў на гэтую самую Прапалаўшчыну. А і ад свае жывіны таксама не мала збіралася яго. Потым пачаў штучнае ўгнаенне прымяняць. Хіба ж адным з першых у гэтых ваколіцах, бо тады, па-першае, людзі апрача кайніту нічога пра іх і не чулі, а, па-другое, усё гэта было надта дарагое, не па кішэні нам, сялянам. Але я апошняе ад вуснаў сабе адымаў ды купляў тыя навозы. Ну і панавала! Зрэшты, я заўсёды намагаюся на полі ды ў хлявах усё зрабіць парадкам і ўпору. І Прапалаўшчына не падвяла — збожжа ў мяне, бы лес, зашумела. Пашла тады сярод суседзяў гаворка: „Глядзі, на Прапалаўшчыне Стэльмашук ляшак каля ляшка наставіў, што і не пяройдзеш!..“

Ён абапірае аб стол свае цяжкія, мазолістыя, з тоўстымі, бы вяроўкі, жыламі рукі і ў задуме глядзіць цераз акно ў садок, дзе гнецца голле ад ураджайнай садавіны і снуюць каля вулляў неўтамонныя пчолы.

Паглядаю я на гэтага худашчавага шасцідзесяцігадовага, ссутуленага ўжо, чалавека з захапленнем яго настойлівасцю ў жыцці. А жыццё не галубіла Мікалая Стэльмашука. Нарадзіўся ён у сям'і чыгуначніка ў Саколцы. Пакуль жыў бацька, дык сям'я неяк перабівалася з бульбы на квас. Але калі памёр бацька, усе чацвёра дзяцей-малалетак мусілі разбрысціся па свеце — уласнага кавалка хлеба шукаць.

(Працяг на стар. 4)

## У Прэзідыуме ГП БГКТ

На пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ, якое адбылося 12 верасня, найбольш увагі было прысвечана ацэнцы культурна-асветнага 1976-77 года. Праходзіў ён у дзейнасці БГКТ пад лозунгам „60 год Вялікага Кастрычніка“. Пад гэтым лозунгам ГП БГКТ і рэдакцыя „Нівы“ арганізоўвалі агляды — песенны і драмгурткоў, народныя фэсты, канцэрты і іншыя мерапрыемствы.

У мясцовасцях, ахопленых дзейнасцю БГКТ, дзейнічаюць 193 культурна-асветныя пункты (найбольш клубаў „Прэса-Кніжка-Рух“ і клубаў селяніна), і таму няма аніякіх цяжкасцей з памяшканнямі, у якіх гурткі БГКТ могуць праводзіць свае мерапрыемствы.

У мінулым культурна-асветным годзе працавала 82 самадзейныя калектывы, у тым ліку 31 харавы, 24 тэатральныя, 24 вакальна-музычныя і 3 танцавальныя.

Моцныя пазіцыі здабыў ужо двухступенны конкурс на беларускую песню. У фінальным аглядзе „Беларуская песня-77“ узяло ўдзел 98 чалавек. Значна слабей у галіне драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам. Да агляду рыхтавалася толькі 9 драмгурткоў. Галоўнай прычынай невялікай колькасці драматычных калектываў з'яўляецца недахоп адпаведнага сцэнічнага рэпертуару.

Пачынаючы ад 1971 года ГП БГКТ супольна з куратoрыяй асветы і выхавання арганізоўвае конкурс на беларускую песню сярод школьнай моладзі. У фінальным аглядзе ў бягучым годзе ўзяло ўдзел 40 асоб.

У мінулым культурна-асветным годзе ГП БГКТ і рэдакцыя „Нівы“ супольна з ваяводскай бібліятэкай аб'явілі чытальніцкі конкурс пад загалоўкам: „Пазнаем сучасную беларускую літаратуру“. Закончыцца ён 30 кастрычніка.

У БГКТ паспяхова разгортваецца клубная дзейнасць у Беластоку, Варшаве, Гайнаўцы, Гданьску і многіх вёсках. Шырока адзначаюцца многія гадавіны, дзяржаўныя святы, падрыхтоўваюцца акадэміі, вечарынкі, выступленні мастацкіх калектываў.

У бягучым годзе цікавыя мерапрыемствы наладжваў аддзел культуры гарадскога ўпраўлення ў Беластоку. Была гэта дэкада культуры вёсак у кантакце з горадам. Паасобныя гміны паказвалі свае культурныя дасягненні на прадпрыемствах горада Беластока. У сувязі з гэтым калектывы з беларускім рэпертуарам з Гарадка, Плёсак, Арэшкава, Дубяжына, Орлі і Рагачоў выступалі на сцэнах завадскіх клубаў і ў дамах культуры горада Беластока.

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў беларускім асяроддзі аўтарскія сустрэчы нашых літаратараў з аб'яднання „Белавежа“. Адбылося іх у гэтым перыядзе 76, а ўсіх спатканняў 112 (гэта значыць — з журналістамі „Нівы“, дзеячамі БГКТ, цікавымі людзьмі). Прачытана было ў гэтым часе 67 дакладаў.

Візуальная прапаганда ў дзейнасці таварыства займае таксама пачэснае месца. У мінулым культурна-асветным годзе толькі з жыцця СССР падрыхтавана было 216 фотавыставак.

Прэзідыум ГП БГКТ на гэтым жа сваім пасяджэнні разгледзеў і зацвердзіў правілы конкурсаў, у тым ліку конкурсу народных музыкантаў і аркестраў. (мх)



 




# Чорныя справы „чырвоных“ фашыстаў

З газетнай паласы з выклікам глядзіць атлетычны мужчына ў наручніках. Вакол яго некалькі ўзброеных паліцэйскіх. Гэта небяспечны злачынец Рэната Курча, завадатар так званых „Чырвоных брыгад“, „Пралетарскіх узброеных ячэек“ і іншых тэрарыстычных арганізацый, кіраўнік многіх тэрарыстычных акцый, што мелі месца ў Італіі за апошні час.

Р. Курча пачаў сваю тэрарыстычную „кар'еру“ ў 1961 годзе ў радах неафашысцкай групы „Новы парадак“. Прыкладна ў гэты ж час ён пазнаёміўся і ўвайшоў у цесны кантакт з бельгійскім фашыстам, адным з кіраўнікоў еўрапейскага „чорнага інтэрнацыянала“ Ж. Тырыгарам. Цяпер бельгіец верхаводзіць у міжнароднай антыкамуністычнай арганізацыі „Эўропа чывільта“, галоўная задача якой — ідэалагічныя правакацыі супраць сацыялістычных краін.

Доўгі час італьянская паліцыя не магла напасці на след Курча. Нарэшце ў верасні 1974 года ён і яго галоўны памочнік былі схоплены. Аднак праз некалькі месяцаў жонка завадатара Маргарыта Каголь з дапамогай чатырох узброеных супольнікаў уварвалася ў турму Казале-Манферата (вобласць П'емонт) і вызваліла Курча.

Неўзабаве злачынцаў бачылі ў Швейцарыі. Потым след быў згублены. Праз некаторы час Курча зноў апынуўся ў Італіі, і газеты зашумелі аб новых правакацыях. Ці мог Курча дзейнічаць так нахабна без падтрымкі ўплывовых сіл?

Вядома, што „Чырвоныя брыгады“ былі створаны ў канцы шасцідзесятых — пачатку сямідзесятых гадоў завадатарамі італьянскага неафашызму. У свой час арганізацыя падтрымлівала цесныя кантакты з французскай прафашысцкай ААС і амаль да сённяшняга дня карыстаецца апекай амерыканскага Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення.

Яшчэ не заціх скандал у сувязі з умяшаннем разведвальнага ўпраўлення ў справы Італіі, які пачаўся некалькі гадоў назад, а нядаўна былі зроблены новыя выкрыцці. У адным з апошніх нумароў штотыднёвіка „Віенусведжорні“ вядомы італьянскі журналіст Г. Капата прывёў факты, якія даказваюць, што ЦРУ арганізуе, фінансуе і кіруе тэрарыстычнымі групамі, якія ў апошнія месяцы развязалі ў Італіі „партызанскую вулічную вайну“, або, як гаворыцца ў артыкуле, „пачалі татальную, узброеную кровапралітную барацьбу супраць дзяржавы“.

Як гэта рабілася? Каля двух гадоў назад у Італію адправіліся агенты ЦРУ з тым, каб у Балоньі стварыць арганізацыю правакатараў. За кароткі час агенты ўкараніліся ў студэнцкае асяроддзе. Так званыя „аўтамісты“, якія з'явіліся на свет, сталі гразой для ўлад. Кіраваў імі нейкі Маркс Раскін, былы член нью-йоркскага гангстэрскага клана, а цяпер генеральны дырэктар так званага Інстытута вывучэння палітыкі — прыватнай арганізацыі, фінансуемай сям'ёй Ракфелераў. „Ужо больш як дзесяць гадоў, — піша „Віе нуоведжорні“, — гэта арганізацыя стварае, накіроўвае і фінансуе падрыўныя групы, якія дзейнічаюць у Заходняй Еўропе. Яна атрымала ад кіраўнікоў ЦРУ „падрад“ на выкананне работ па дэстабілізацыі становішча еўрапейскіх урадаў, непажаданых вашынгтонскім магнатам“.

Вось такім чынам у розных гарадах Італіі ўзніклі „новыя партызаны“, „барацьбіты за камунізм“ і да таго падобнае. Яны выдавалі сябе за левых. Але хто быў сярод іх? Члены неафашысцкай арганізацыі „Нацыянальны авангард“, якую ўзначальваў „чорны князь“ і няўдалы путчыст В. Баргезе, прыбліжаныя агента ЦРУ Карла Фумагалі, які ў свой час планаваў дзяржаўны пераварот у Італіі, а ў час вайны верай і праўдай служыў гітлераўцам. Дарэчы, сёння ён за кратамі і на адным з допытаў прызнаўся, што праз яго рукі праходзілі грошы ЦРУ, адрасаваныя „левым“.

П. Дыктаў

(Пачатак у папярэднім нумары)



Дзяржынскі зусім не быў аскетам, якім яго некаторыя лічылі. Ён любіў жыццё ва ўсіх яго праяўленнях, ва ўсім яго багацці; умеў пажартаваць, пасмяяцца. Ён страсна любіў прыроду, асабліва лес, які напамінаў яму дзяцінства, якое ён правёў сярод лясоў у Дзяржынаве.

Дзяржынскі глыбока разумеў і любіў мастацтва, музыку. Ён добра ведаў заходнюю літаратуру, у прыватнасці вельмі любіў Гётэ і памятаў яго многія творы напамяць. Не ўсе ведаюць, што і сам Дзяржынскі ў маладосці пісаў вершы. Заўсёды і ва ўсім словы Дзяржынскага не разыходзіліся са справай. Патрабавальны да іншых, але яшчэ больш патрабавальны да сябе. У асабістым жыцці Дзяржынскі быў вельмі сціплы, ненавідзеў усякую раскошу, празмернасць. Ён арганічна не выносіў нават нязначных прыкмет ліслівасці і падхалімства ад каго б яны не зыходзілі.

Яго сціпласць праяўлялася на кожным кроку, у кожным учынку. Дзяржынскі сам засцілаў свой ложак і чысціў абутак, не дазваляў гэтага рабіць іншым. Наогул, ён не цярпеў, каб за ім даглядалі, а стараўся ўсё рабіць сам.

# ЖАЛЕЗНЫ ФЕЛІКС

Аднойчы адбыўся такі выпадак. Дзяржынскі ўбачыў на сцяне аднаго з памяшканняў ВЧК свой партрэт. Тут жа ў запісцы свайму намесніку ён катэгарычна патрабаваў зняць партрэт і ва ўсіх падведамых яму ўстановах дазволіў змяшчаць толькі групавыя фатаграфіі. Другі раз, даведаўшыся, што ў Туркестане назвалі яго імем Сямірэчанскую чыгунку, ён звярнуўся з просьбай перагледзець гэта рашэнне.

* ✲ *

Праз усё жыццё пранёс Дзяржынскі любоў да працоўнага народа. Але асабліва моцна ён любіў дзяцей.

Аднойчы (справа адбылася ў 1921 годзе) з'явіўся ён у Наркамасветы да Анатоля Луначарскага.

— Я хачу кінуць некаторую частку маіх асабістых сіл, а галоўнае сіл ВЧК на барацьбу з дзіцячай беспрытульнасцю, — з месца ў кар'ер заявіў Дзяржынскі. — Я думаю, што аднаму толькі Наркамасветы цяпер не справіцца з гэтай справай.

27 студзеня 1921 года пры ВЦВК была створана Камісія па паляпшэнню жыцця дзяцей. Старшынёй камісіі быў назначаны Ф. Дзяржынскі. Ён разгарнуў кіпучую дзейнасць па барацьбе з дзіцячай беспрытульнасцю. Былі створаны сотні дзіцячых дамоў і працоўных калоній, у якіх дзеці былі акружаны клопатамі і ўвагай.

У пачатку 1923 года ў краіне налічвалася каля 5 мільёнаў дзяцей-сірат. Тры мільёны з іх атрымлівалі дапамогу ад дзяржавы і грамадскіх арганізацый. Але заставалася яшчэ велізарная колькасць дзяцей, якія мелі патрэбу ў неадкладнай падтрымцы.

Зварот Ф. Дзяржынскага да савецкіх людзей знайшоў у іх гарачы водгук. Барацьба з дзіцячай беспрытульнасцю стала агульнанароднай справай.

Сам Ф. Дзяржынскі, нягледзячы на велізарную перагружанасць дзяржаўнай работай, знаходзіў час для таго, каб асабіста праверыць стан дзіцячых устаноў і прыняць у выпадку неабходнасці адпаведныя меры.

Дзяржынскі выхоўваў савецкіх чэкістаў непахіснымі барацьбітамі за рэвалюцыю, беззапаветна адданымі справе партыі. „Чэкістам можа быць толькі чалавек з халоднай галавой, гарачым сэрцам і чыстымі рукамі. Той, хто стаў абыякавым, не прыгодны больш для работы ў ЧК“, — гаварыў Дзяржынскі. Калі яму дstation дарэчы — Калі яму даручылі якую-небудзь справу, ён асабіста адказваў за яе. Работнікі, якія працавалі з ім, ведалі, што ён строгі і патрабавальны ў рабоце, але яны ведалі разам з тым, што сумленнаму работніку Дзяржынскі акажа ўсякую падтрымку. Дзяржынскі не раз падкрэсліваў, што чэкіст павінен быць узорным бальшавіком, гатовым аддаць усё сваё жыццё Радзіме, народу.

Напружаная, кіпучая дзейнасць паглынала Дзяржынскага. Між тым здароўе яго пагаршалася з кожным годам. Давалі знаць аб сабе царскія турмы і катаргі, недаяданне і бяссонныя, трывожныя ночы. Урачы прыпісалі яму дыэту. Дзяржынскі лічыў гэта „раскошай“. ЦК партыі неаднаразова настойваў на сур'ёзным лячэнні Дзяржынскага, але ён адмаўляўся.

3 ліпеня 1926 года сабраўся пленум ЦК і ЦКК ВКП(б). 10 ліпеня на Пленуме выступіў Дзяржынскі. У яркай і страснай прамове ён абрушыўся на трацкістаў, якія перашкаджалі партыі ў стваральнай рабоце. Яго перапынялі рэплікамі Троцкі, Пятакоў, Каменеў і інш. Але Дзяржынскі кідаў ім у твар факты, якія выкрывалі апазіцыю. Каменеў спрабаваў выкруціцца. Ён кінуў з месца рэпліку: „Вы чатыры гады наркам, а я толькі некалькі месяцаў“. На гэта Дзяржынскі адказаў з пагардай: „А вы будзеце 44 гады і нікуды нягодныя, таму што займаецеся палітыканствам, а не работай. А вы ведаеце выдатна, мая сіла заключаецца ў чым? Я не шкадую сябе... Я ніколі не крыўлю душой: калі я бачу, што ў нас непарадкі, я з усёй сілай абрушваюся на іх...“

Ужо ў час гэтай палымянай прамовы Дзяржынскі часта хапаўся за грудзі, быццам спрабуючы стрымаць біццё свайго сэрца. Сябры, якія назіралі за яго бледным, усхваляваным тварам, трывожна пераглядаліся. Але яны і ўявіць сабе не маглі, што набліжаецца канец.

Дзяржынскі з цяжкасцю сышоў з трыбуны. Вялікім напружаннем волі ён прымусіў сябе прайсці ў суседні пакой і легчы на канапу. Калі першы прыступ прайшоў, ён паціху падняўся ў сваю кватэру. Падышоўшы да пасцелі, упаў.

У звароце да ўсіх членаў партыі, рабочых і працоўных, да Чырвонай Арміі і Флоту ЦК ВКП(б) і ЦКК ВКП(б) пісалі: „У засценках царскай Расіі, у сібірскай ссылцы, у бясконца доўгія гады катаржнай турмы, у кайданах і на свабодзе, у падполлі і на дзяржаўнай пасадзе, у ЧК і на будаўнічай рабоце — заўсёды, усюды Фелікс Дзяржынскі быў на перадавой лініі агню... Яго справа была цудоўнай. Цудоўным было і яго выдатнае жыццё. Цудоўная яго смерць на баявым пасту“.

# Дэкада беларускай кухні

У сувязі з Днямі беларускай культуры Беластоцкае гастранамічнае прадпрыемства вырашыла пацешыць беластаччан і жыхароў бліжэйшых мясцовасцей аўтэнтычнай беларускай кухняй. Бо той энтузіязм, які ў свой час выклікала адкрыццё рэстарана „Гродна“ ў аматараў беларускіх страў, пакрысе развеяўся па меры таго, як ішоў час. Таму, здаецца, дэкада беларускай кухні, якая будзе праходзіць у рэстаране „Гродна“ ад 1 да 10 кастрычніка, прыцягне да сябе мноства наведвальнікаў.

У аўтэнтычнасці не будзе сумнення: з Беларусі прыехала аж 10 спецыялістаў, у тым ліку 4 повары і 4 афіцыянткі.

А будуць гэта стравы надзвычай цікавыя. Пераважаюць грыбныя, а гэта і добра, бо на грыбы сёлета ўраджай. Можна будзе пакаштаваць і беларускі боршч; і аладкі бульбяныя, фаршыраваныя мясам; і курыныя катлеты з грыбамі ў сярэдзіне; і мяса, фаршыраванае грыбамі; і катлеты па-беларуску (курыца, фаршыраваная пячонкай); і яечкі, фаршыраваныя грыбамі; і яшчэ шмат чаго іншага. Адным словам, пакаштаваць варта. Дык ад 1 да 10 — усе ў „Гродна“, запрашаем!




**Sobota — 1.X.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. sem. III. 7.00 Hod. zwierz. (26). 9.00 Droga w ciemności — dramat obycz. rum. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. (4). 13.20 Hod zwierz. 13.50 Red. szk. zap. 14.00 Pr. dnia. 14.05 Radzimy rol. 14.15 Obiektyw. 14.35 Dziennik. 14.45 W hucie żelazo się rodzi. 15.15 Opowieści rep. 15.45 Tak tu cicho o zmierzchu — dramat wojenny ZSRR. 18.00 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Marylin Monroe. Małpia kuracja. 22.10 Pr. rozr. 22.55 Dziennik. 23.10 Jak usidlić malarza pokojowego — film fab. jug.

**Niedziela — 2.X.** 7.00 Tech. Rol. Upr. rośl. (4). 7.30 Hod. zwierz. 8.00 Nasze spotkania. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Samochody i ludzie — film dok. fr. 11.35 Dziennik. 11.50 Rolnicze rozmowy. 12.20 Zwyczaje i obrzędy. 12.50 Piórkiem i węglem. 13.15 Dla dzieci. 13.45 Klub Sześciu Kont. 14.30 Los. Dużego Lot. 14.45 Wielka gra. 15.40 Sport. 17.15 Teatr Komedii C. Magnier „Oskar”. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Marco Visconti — odc. V ser. wł. 21.25 Widowisko cyrkowe. 22.35 Sport.

**Poniedziałek — 3.X.** 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (27). 13.25 Fiz. (22). 15.20 NURT: Czynniki rozwoju społ. PRL. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Miasta, które mogły zginąć. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Śpiewa A. Kowtunow. 18.05 Stawka większa niż życie — odc. VI. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. M. Bułhakow „Ostatnie dni”. 22.00 Camerata. 22.30 Gdy zaczynaliśmy... Wrocław. 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 4.X.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (27). 7.00 Fiz. (22). 9.00 Dla kl. V—VI. J. pol. 10.00 Dla kl. I—III. Czer., żółte, ziel. 10.10 Film fab. 12.00 Dla kl. IV. J. pol. 12.45 RTV szk. śred. Hist. (1). 13.25 Chem. (5). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.50 Interstudio. 18.20 Między nami jaskiniowcami — ser. anim. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Z życia wzięte — ser. CSRS. 21.45 Świadkowie. 22.05 Piosenki z pracowni Jerzego Dudy-Gracza. 22.55 Dziennik.

**Środa — 5.X.** 6.30 RTV szk. śred. Hist. (1). 7.00 Chem. (5). 9.00 Dla kl. VII. Chem. 11.05 Dla kl. VII. Hist. 12.45 RTV szk. śred. Hist. (7). 13.25 Mat. (35). 15.20 NURT: Jaki jesteś siedmiolatku? 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto czyta nie błądzi. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Licytacja. 18.30 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Skradzione pocałunki — fab. fr. 22.10 Spotkania z medycyną. 22.40 Dziennik.

**Czwartek — 6.X.** 6.30 RTV szk. śred. Hist. (7). 7.00 Mat. (35). 9.00 Dla kl. VIII—I lic. Przysp. obr. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.45 RTV szk. śred. Fiz. (2). 13.25 Biolog. (42). 15.45 Pr. dnia. 15.50 Radzimy rolnikom. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Waga. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Sonda. 18.50 Wyst. Amb. NRD. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Orzeł i reszka — fab. film pol. 22.05 Pegaz. 22.50 Dziennik.

**Piątek — 7.X.** 6.30 RTV szk. śred. Fiz. (2). 7.00 Biolog. (42). 9.00 Dla kl. V. Geogr. 10.00 Dla kl. IV. Muzeum W. P. 11.05 Dla kl. II. Czarodziejskie słowa. 12.00 Dla kl. VIII. Wych. ob. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. (28). 13.25 Mech. rol. (23). 15.20 NURT — ped. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sport. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Por. zmotor. tur. 17.50 Cienie zanikają w południe — ser. ZSRR. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Lotta w Weimarze — fab. film NRD. 22.40 Dziennik.




**Piątek 30 IX** — 9.05 Śpiewa K. Lisowski. 13.15 Koncert. 14.05 Film dla dzieci. 16.15 Film ser. 18.00 Nasza biografia. 19.30 Pr. estrad. 21.10 Sport.

**Sobota 1 X** — 9.30 Koncert. 11.00 Film anim. 12.00 Hokej. Krylja Sowietow — Dynamo (Moskwa). 14.15 Koncert życzeń. 15.00 Nie do wiary. 16.45 Film fab. 18.15 P. nożna CSKA — Dynamo (Moskwa). 19.30 Festiwal piosenki radzieckiej.

**Niedziela 2 X** — 9.00 Film fab. 12.00 Hokej. CSKA — Spartak (Moskwa). 14.10 Pr. muz. 14.55 Panorama międzynar. 16.15 Film anim. 16.35 Klub film. 17.35 Film fab. 20.40 Koncert artystów Gruzji.




**Białowieża** Zanim nadejdzie dzień — pol. 4—5. Zwycięzca — radz. 6—7. Godziny grozy — ang. 8—9.

**Bielsk Podlaski** Bezkresne łąki — pol. 4—5. Lili kochaj mnie — fr. 6—7. Terror Mechagodzilii — jap. 8—9.

**Dubicze Cerkiewne** Eliksir młodości — rum. Policjanci — USA 5—9.

**Michałowo** Dwaj ludzie z miasta — fr. 4—5. Adopcja — węg. 6—7. Oni walczyli za ojczyznę — radz. 8—9.

**Mielnik** Ojciec chrzestny — USA 5. Doktor Mladen — jug. 8—9.

**Milejczyce** Życie dla miłości — jug. 4—5. Tata ja wyszłam za mąż — bułg. 6—7. Dagny — pol. 8—9.

**Narew** Hostessa — NRD. Krótkie życie — pol. 5—9.

**Narewka** Nieposkromieni hajducy — węg. Olśnienie — pol. 5—9.

**Nurzec** Grzech Katarzyny — czes. 4—5. Anna siostra Jany — czes. 6—7. Uśmiech — USA 8—9.

**Orla** Grzech Antoniego Grudy — pol. Policjanci — USA 5—9.

**Rajsk** Krótkie życie — pol. Dzień oczyszczenia — pol. 5—9.

B.Z.Graf. Zam. 2335 B-4



 

(Працяг са стар. 1)

# ЛАМБАРДСКАЯ ДАЛІНА НА ПРАПАЛАЎШЧЫНЕ

Мікалай Стэльмашук трапіў да заможнага хутаранца ні то за прыёмнага сына ні то за пастушка-парабка. На хвацкага хлопца вырас — дзяўчаты заглядаліся на яго, бы на вобраз. Ажаніўся на дзяўчыне, што жыла ў хутары на гэтай самай Прапалаўшчыне. Толькі пачаў станавіцца на ногі як самастойны гаспадар — успыхнула вайна. Стэльмашуку тады споўнілася якраз 29 год, на хутар завітаў пасыльны з мабілізацыйнай павесткай... За ракою Піліцай яго цяжка раніла ў нагу, потым былі франтавыя шпіталі ў Апочне, Гарволіне, Уладзіміры Валынскім. Затым пацягнуўся доўгі і цяжкі шлях бадзяння і пакутніцтва польскага салдата ў яго шуканні дарогі да свабоднай радзімы. Для Стэльмашука ён пралёг праз усю Італію. Пад Монтэ Касіна асколак шрапнеля зноў абязвечыў яго акалечаную нагу. На яе ён і цяпер недамагае. Белакаменная ды ізумрудназялёная Італія маніла дзявочай красою, але ў стэльмашуковым сэрцы квітнеў вобраз яго ўласнай гаспадарачкі з мілавіднай гаспадынькаю ў далёкай Прапалаўшчыне. Замест зводзіць у грэх італьянскіх прыгажуняў, ён старанна вучыўся на сельскагаспадарчых курсах ды пільна прыглядаўся, як гаспадараць італьянцы на славутай Ламбардскай даліне — жытніцы Італіі. „А ці ж мая далінка на хутары Нятупа каля Крынак горшая, — думалася яму, — нічога, што яе Прапалаўшчынай завуць. Няхай я толькі за яе вазьмуся...“ І калі ў 1947 г. шмат хто з яго аднапалчан намагаўся неяк прыспасобіцца ў розных краінах Заходняй Еўропы або падаваўся ў далёкія Аўстралію ці Канаду, ён без вагання імчаўся на радзіму.

Хоць і нялёгка было падымаць гаспадарку з пасляваеннага ўпадку, але ў Стэльмашука работа ў руках гарэла. І на Прапалаўшчыне зноў снапы пачалі густа ўсцілаць поле, а з яго дваццацігектаровай гаспадаркі штогод паплыло на ГС-аўскія пункты скупкі сама меней па 30 цэнтнераў збожжа і столькі ж бульбы ды тоны паўтары мяса, штодня ў малачарню — 50-70 літраў малака. І так ужо вось трыццаць год! Сваёй працавітасцю, сумленнасцю ды спагадай для іншых Стэльмашук здабыў пашану і ў сваіх суседзяў і далёка па ўсёй Сакольшчыне. Доўгія гады быў радным павятовай рады нарадовай, а актыўным дзеячом ЗСЛ з'яўляецца і па сённяшні дзень. Калі яго абралі старшынёй грамадскай рады нарадовай у Горцы і яму даводзілася там працаваць па цэлых днях, дык сваю гаспадарку ён абрабляў уночы. Спачатку суседзі думалі, што гэта блукаючыя агеньчыкі па Прапалаўшчыне ўсю ноч шляюцца, пакуль не ўбачылі, як Стэльмашук з ліхтарыкам на гузіку кашулі сваё поле паначы арэ.

— І, ведаеце, ёсць у мяне адна-адзіная дачка Крыся ды і тая ў мае сляды пайшла: закончыла Вышэйшую сельскагаспадарчую школу, выйшла замуж за свайго калегу-студэнта і цяпер працуюць абое ў ПГР-ы на Люблінішчыне. Так, як і я ў зямлю закахалася. Нават калі была ў мацярынскім водпуску і жыла ў нас, то ўсё каля кароў тупала, снапы ставіла ды памагала мне збожжа з поля звозіць. Такая, відаць, ужо наша кроў стэльмашукова...

І ён не без гонару вымае з полачкі ў шафе і выкладае на стале салідны стус карабкоў з узнагародамі. Знаходзіць сярод іх і паказвае мне Залаты Крыж Заслугі, што атрымаў ён у 1974 г., Сярэбраны Крыж Заслугі з 1969 г., медаль 1000-годдзя Польскай Дзяржавы, сярэбраны знак „Заслужаны для Беласточчыны“ з 1976 г., „Зорку Італіі“ з 1945 г., „Памятны Крыж Монтэ Касіна“ з 1944 г., „Медаль Перамогі і Свабоды з 1945 года“, які атрымаў ён у 1976 г., і шэраг іншых узнагарод.

Калі мы ўжо развіталіся і я пакідаў яго ўтульны домік, ён уздыхнуў:

— Вось каб мне адняць якія дзесяць год, не горш Ламбардскай даліны цвіла б доўга наша Прапалаўшчына...

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ

# Марыя Сачко...

...пражыла на гэтым свеце ўжо 76 гадоў, дачакалася трох праўнукаў, а ўсіх унукаў нават трудна ёй пералічыць.

Шмат бяды і гора выпала на яе долю. Разам з мужам Янам жылі яны ў вёсцы Пасека, гаспадарылі на кавалку зямлі, якая не зусім забяспечвала хлебам іх сям'ю: дзве дачкі і аднаго сына.

Самае вялікае няшчасце звалілася на іх сям'ю летам 1941 года. Гітлераўскія галаварэзы спалілі іх вёску, а ўсіх жыхароў прагналі на чатыры бакі свету. Дазволілі забраць з сабою толькі тое, што можна было вынесці ў руках.

— Чатыры гады, — успамінае бабуля Сачко, — жылі мы на ласцы чужых, але спагадлівых людзей. Найманіся да кожнай працы, за кавалак хлеба, за кошык бульбы, за жменю мукі або нейкай крупы. Ад усяго гэтага мужык мой патраціў здароўе і, не дачакаўшыся старасці, памер у 1963 годзе.

...Цяпер яна жыве ў Гайнаўцы і даглядае дзяцей у сваёй дачкі Яўгеніі. Сустрэў я яе ў час БГКТ-оўскага фэстына ў вёсцы Ільяшукі. Ад Гайнаўкі, як ні кажы, гэта парадачны кавалак дарогі.

— А мне захацелася наведаць знаёмых і сваякоў, — паясняе бабулька Сачко, — а заадно і пабываць на фэстыне. Тут так прыгожа спяваюць нашы старынныя песні. Проста прыпамінаецца мне мая маладосць.

Яна прысела на траве і задумалася над сваім цяжкім лёсам, над пройдзенай дарогай. Тады я дакладней прыгледзеўся да яе. Апранута дбайна, ва ўзорыстую святочную вопратку, якая без лішніх слоў паказвае, што цяпер бабулька Сачко бяды і гора ўжо не ведае. І толькі глыбокія маршчыны на яе загарэлым твары напамінаюць аб перажытым. Жадаем ёй добрага здароўя і як найдаўжэйшага жыцця.



**(вр)**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# ЛЯЛЬКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

сёды пры запоўненай да апошняга месца зале.

— З гэтага вынікае, што гасцявалі і па-за Беластокам?

— Прычым не толькі ў многіх мясцовасцях па ўсёй Польшчы і нашай Беласточчыне. З „Панчам“ мы ездзілі ў 1974 г. у Варшаву, дзе ў рамах Панарамы XXX-годдзя прадстаўлялі беластоцкае тэатральнае мастацтва, нават атрымалі вельмі высокую ацэнку і ў гледачоў і ў тэатральных крытыкаў. „Картатэку“ Т. Ружэвіча вазілі мы на Міжнародны фестываль лялечных тэатраў у Бельску-Белай у 1973 г. У часе „Дзён польскай культуры“ ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі ў 1976 г. наш тэатр прадстаўляў польскае тэатральнае мастацтва. Ставілі мы „Панча“ ў горадзе Эрлангене. Пастаноўка сустрэлася з вельмі цёплым прыёмам. Цяпер жа прыступаем да пастаноўкі п'есы „Ляці, голас, па расе!“ для нашай тэлевізіі. П'еса будзе паказана ў адной з перадач у цыкле публіцыстыкі на тэмы культуры.

— А чым парадуеце нашага беластоцкага гледача ў наступаючым тэатральным сезоне?

— Будзем далей ставіць нашага цудоўнага „Панча“. Затым пакажам нашы дзве новыя работы: „Калядкі“ („Пастаралкі“) Л. Шылера і „Дракона“ („Смока“) Я. Шварца. Цікавыя п'есы. Я думаю, што яны задаволяць патрабавальныя густы нашых сталых гледачоў і новых прыхільнікаў, што прыбудуць у гэтым сезоне. Запрашаем! Праўда, пакуль што ў цеснаватую нашу глядзельную залу. Аднак хачу ўсіх парадаваць, што муры новага будынка нашага тэатра ўжо падведзены пад вянок, будаўнікі прыступаюць да тынкавання і іншых прац у сярэдзіне. Спадзяемся, што ўжо тэатральны сезон 1979/80 мы адкрыем у новым тэатры. Гэта будзе цацка, а не тэатр!

— Жадаю далейшых плённых творчых здзяйсненняў!

**Мікалай Гайдук**

# НА ПУШЧАНСКІМ ШЛЯХУ

Цяпер аб гэтым можна толькі паўспамінаць. Сёлета пушчанскім шляхам Гайнаўка — Белавежа — Тэрэміскі — Нараўка — Нараў прайшлі 52 вандроўныя лагеры. Найбольш было школьнай моладзі з паўднёвай часткі нашай краіны, асабліва з тамашніх вялікіх гарадоў: Лодзі, Катовіцаў, Аполя, Зялёнай Гуры. Спадабаліся ім асабліва Белавежская пушча, пушчанскія пасёлкі і вёскі, маляўнічыя ваколіцы над ракою Нараўкай. Знаёміліся яны з працай тутэйшых жыхароў, а нават прапанавалі сваю дапамогу сялянам у час жніва. У хроніках, якія вядуць школы (у школах у час канікул былі арганізаваны начлегі) знойдзем пахвальныя запісы, у якіх многа захаплення прыгожымі мясцінамі на Гайнаўшчыне, сардэчных слоў аб сустрэчах з мясцовымі людзьмі, а перш за ўсё з вясковай моладдзю.

Адным з прыстанішчаў на пушчанскім шляху з'яўляецца школа ў Старым Ляўкове. Вядзе тут турысцкую базу настаўніца Надзея Пяткевіч. Вельмі добра адчуваюць сябе ў Ляўкове ўсе ўдзельнікі вандроўных лагераў. У час пабыўкі ў гэтай ваколіцы знаёмяцца яны з гісторыяй вёскі, мясцовай керамічнай фабрыкай, новым цэнтрам здароўя, са старыннымі іконамі ў царкве і мясцовымі цікавымі людзьмі. Мясцовая школьная моладзь часта наладжвае спартыўныя матчы і сустрэчы ля кастра над ракой. Госці ў цёплыя дні ахвотна купаюцца і загараюць на сонцы.

Калі пачнуцца заняткі ў школе, тады пісьманосец прыносіць многа пісем ад знаёмых з поўдня Польшчы. Шмат месца ў іх займаюць уражанні аб прайшоўшым леце, зацікаўленне тутэйшым рэгіёнам, а таксама сяброўскія ўспаміны.

**Я. Ц.**

# ВАСІЛЬКОЎ ПРЫГАЖЭЕ

Сёлета ў Васількове пабудаваны новы брук па вул. Супрасльскай і па вул. Польнай і, апрача таго, былі пракладзены тратуары па вул. Беластоцкай і па вул. Польнай. Усё гэта за паўтара мільёна злотых. Васількоўскія вуліцы намнога папрыгажэлі. Цяпер па іх прыемна пашпацыраваць. Некаторыя жыхары гэтага мястэчка ўзяліся за пабудову новых платоў ды жалезнай агароджы.

**(ця)**

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА II

Бядуля ўвайшоў у беларускую літаратуру як паэт, празаік і публіцыст. Пачатак творчасці пісменніка характарызаваўся выключнай складанасцю. Праявілася яна і ў тым факце, што Бядуля карыстаўся некалькімі мовамі, у творчым метадзе і ў самой тэматыцы яго твораў.

Першыя паэтычныя спробы Бядулі былі звязаны з яго прабываннем у ешыбоце. У трынаццацігадовым узросце пачаў ён пісаць вершы на яўрэйскай мове. Зразумела, што творы гэтыя не маглі быць ні арыгінальнымі, ні самастойнымі. Навеяла іх атмасфера школы, біблія і іншая рэлігійная літаратура. Трынаццацігадовы юнак не мог сказаць уласнага паэтычнага слова. Аднак у самым факце пісання вершаў праяўляліся яго прыроджаныя здольнасці, літаратурны талент, імкненне па-свойму разумець і тлумачыць свет. Няма сумненняў, што жывая ў ранняй беларускай творчасці Бядулі ідэя самотніцтва, паглыбленага псіхааналізу, крайняй эмацыянальнасці ў нейкай ступені сваімі карэннямі была звязана з характарам рэлігійнай адукацыі пісьменніка, тым самым з яго яўрэйскімі вершамі.

Другім праявам літаратурнага таленту Бядулі былі яго вершы, напісаныя на рускай мове. Па сутнасці Бядуля не атрымаў грунтоўнай адукацыі на рускай мове. Аднак, вядомая ўжо нам яго цяга да мастацкай літаратуры спрыяла таму, што пазнаёміўся ён даволі добра з творчасцю рускіх пісьменнікаў і тым самым з рускай мовай. Чытаючы творы рускіх паэтаў, малады Бядуля, бадай, найбольш захапляўся тымі з іх, якія ў сваёй паэзіі прапагандавалі ідэі зблiжэння да тых, з якімі сустрэўся ён у ешыбоце. Паэзіі такой у рускай літаратуры канца XIX стагоддзя было вельмі многа. Развіваецца ў ёй усё больш плынь крайняга эстэтызму, індывідуалізму і псіхалагізму або псеўдапсіхалагізму. Напрамак гэты атрымаў у тэарэтычнай літаратуры назву ўпадніцкага або дэкадэнцкага. Зразумела, што ў ніякім выпадку нельга татальна адкідаць усю творчасць пісьменнікаў гэтага напрамку. Вершы многіх з гэтых аўтараў адзначаліся выключнай, утончанай архітэктонікай, цікавымі метафарычнымі знаходкамі, арыгінальным паэтычным мышленнем. Што датычыцца зместу, дык таксама нельга змясціць у адной формуле ўсёй іх разнароднай творчасці. Зразумела аднак, што наогул была гэта паэзія, якая нямнога мела супольнага з ідэяй грамадзянскай некрасаўскай лірыкі. Бадай што найбольш характэрнай рысай дэкадэнтаў было тое, што ў цэнтры сваёй паэзіі ставілі яны не аб'ектыўную рэчаіснасць, а толькі свае суб'ектыўныя адчуванні, якія часта нямнога мелі супольнага з навакольным светам. Знаходзячыся пад уплывам такой паэзіі, Бядуля ў сваіх рускіх вершах аддаваў перавагу суб'ектыўнаму над аб'ектыўным, індывідуальнаму над грамадскім. Свае рускія творы друкаваў ён у пецярбургскім часопісе „На берегах Невы“ і ў віленскім часопісе „Молодые порывы“. Зразумела, што не ўсе вершы, змешчаныя ў названых часопісах, адзначаліся поўнай абыякавасцю ў адносінах да грамадскіх спраў. Аднак большасць з іх была формай дэманстрацыі суб'ектыўных рэальнасцей.

У 1910 годзе ў жыцці Бядулі пачынаецца трэцяя тэндэнцыя. Звязана яна з друкам на старонках „Нашай нівы“ першых яго беларускіх твораў. У перыяд „Нашай нівы“ сітуацыя была такой, што кожны, хто пачынаў пісаць па-беларуску, не мог ізалявацца ад грамадскіх праблем. Беларускі нашаніўскі рух быў праявам, формай беларускага сялянскага адраджэння, і кожны, хто звязаўся з гэтым рухам, мусіў гаварыць аб сялянскіх або нацыянальных патрэбах беларусаў. Заканамернасці гэтай падлягаў таксама Бядуля.

# СТАТЫСТЫКА ДЗЯДЗЬКІ ПОЛЮХА

Люблю наведваць хутар дзядзькі **Яна Полюха** ў Сяміхочах, бо заўжды штосьці цікавага ў яго можна знайсці.

На гэты раз, — у доказ асаблівага даверу, — дзядзька Полюх паказаў мне **своеасаблівую хроніку сваёй гаспадарчай дзейнасці на працягу амаль 40 гадоў!**

Уявіце сабе горбу пажоўклых ад старасці сшыткаў, а ў іх — што за скарбы! — па парадку год за годам скрупулёзна аднатавана, што ён прадаваў і купляў, якія меў расходы і з чаго чэрпаў даход. Гэта каштоўная і непаўторная крыніца ведаў аб гісторыі гаспадаркі Беласточчыны на працягу паўстагоддзя. Гэта найбольш аб'ектыўны вобраз самых розных перамен і пераўтварэнняў, бо паказаны ў люстэрку лікаў і рабіў гэта гаспадар выключна для сябе, без якой-колечы думкі, каб кагосьці падмануць.

Пачалося ўсё гэта яшчэ ў 1937 годзе. Яну Полюху было тады ўжо 20 гадоў. Бацька (які і цяпер яшчэ жыве) меў 9 га ворнай зямлі і чатыры га сенажацяў. Іншых дзяцей у яго не было.

— Аднойчы, — успамінае дзядзька Полюх, — пісьманосец прынёс у нашу вёску польскую газету для сялян пад загалоўкам „Плён". Яна папала ў мае рукі. Знайшоў я там артыкул, з якога даведаўся, што адзін гаспадар у Чэхаславакіі скрупулёзна вядзе запіскі сваіх даходаў і расходаў. Гэта мяне зацікавіла і я сам з таго часу пачаў сваю гаспадарчую хроніку. Першы сшытак прапаў недзе ў вайну. Такім чынам пачатак маіх запісак адносіцца да 1938 года.

Хто з нас добра памятае, што купляў і што прадаваў, напрыклад, пяць гадоў таму назад? А вось у Полюха...

Ішлі гады, праходзілі розныя завірухі, і ўсё гэта знайшло адлюстраванне ў яго гаспадарчай хроніцы. Бацька пастарэў, сын ажаніўся і стаў гаспадарыць самастойна. Толькі зямлі не прыбывала і не ўбывала. Гэта вельмі істотны факт, бо ён дазваляе сачыць за пераменамі на аснове нязменнага базіса.

Вось, для прыкладу, год 1938. Ян Полюх прадаў:

| | | |
|---|---|---|
| жыта 958 кг | на суму | 167,15 зл. |
| пшаніцы 17 кг | „ | 4,40 „ |
| ячменю 5 кг | „ | 0,90 „ |
| лубіну 95 кг | „ | 11,88 „ |
| сырадэлі 29 кг | „ | 5,80 „ |
| канюшыны 12 кг | „ | 16,10 „ |
| аўса 63 кг | „ | 7,50 „ |
| насення ільну 15 кг | „ | 10,08 „ |
| чарэшань 15 кг | „ | 4,05 „ |
| свіней 3 шт. вагою ў 629 кг | на суму | 553,15 зл. |
| цялят 2 шт. вагою ў 117 кг | на суму | 58,50 зл. |
| курэй 9 шт. | на суму | 11,10 зл. |
| яек 182 шт. | „ | 9,46 „ |
| малака 20 літраў | „ | 4,00 „ |

Далічыўшы яшчэ іншыя драбнейшыя ўплывы і 37 зл. прыбытку з мінулага 1937 года, даход Полюхаў склаў у 1938 годзе суму 1022,05 злотых. За гэтыя грошы яны купілі:

парасят 3 шт. на суму 40 зл.
бульбы насеннай 300 кг на суму 9 зл.
лубіну 60 кг на суму 9,30 зл.
вікі 10 кг на суму 2,20 зл.
воз новы жалезны за 131 зл.
солі 52 кг на суму 10,40 зл.
тэкстыльных матэрыялаў на суму 24 зл.
гарэлкі 3,75 л на суму 16,20 зл.

Варта яшчэ адзначыць, што ў 1938 годзе бацька Яна Полюха плаціў 108 зл. 70 гр. падатку, што састаўляла больш-менш адну дзесятую частку яго гадавога даходу.

У гэтым выпадку няшмат змянілася. Вось за 1975 год (за гэты год Полюх поўнасцю закончыў падлікі), заплаціў ён 10.345 зл. падатку, але даход у яго з гаспадаркі за гэты ж год склаў суму 133.145 зл. Не быў гэта самы лепшы год. Ён адзначаўся слабым ураджаем, а ў Полюхаў было шмат выдаткаў. Яны тады будавалі сабе вялікую абору. А ўсё ж удалося яму заашчадзіць яшчэ 31 тысячу злотых, якія папоўнілі бюджэт 1976 года. Гэты год быў болей спрыяльны і прынёс гаспадару (паводле ўступных падлікаў) 174.590 зл. прыбытку. Толькі за малако каса дзядзькі Полюха папоўнілася сумай у 63.660 зл.

Варта яшчэ прыгадаць, што ў 1951 годзе даход з гэтай жа гаспадаркі складаў суму 10.650 злотых. Так, тут няма памылкі: **дзесяць тысяч шэсцьсот пяцьдзесят злотых.** За чатыры гады гэты даход павялічыўся да суму 17.150 зл., а дваццаць гадоў пазней — у 1975 годзе склаў ён ужо суму 133.149 зл.

Вядома, мяняліся цэны ды і вартасць самой валюты таксама не была пастаяннай. Нягледзячы на ўсё гэта, статыстыка дзядзькі Полюха даказвае рэч найважнейшую: навучыліся мы з гэтай жа самай плошчы зямельных угоддзяў здабываць для сябе намнога больш, чымсьці здабывалі калісьці. Значыць, сталі мы разумнейшымі і болей патрабавальнымі. Адначасова павялічыліся нашы даходы і расходы. Для прыкладу, дзядзька Полюх 1976 год закрыў наступным чынам: на баку даходу — 205.590 зл. (у тым ліку 31.000 зл. прыбытку з папярэдняга года), а на баку выдаткаў 127.860 зл.

— Значыць, шмат вам яшчэ асталося ў запас на наступны год, — гавару яму, а ён смяецца і адказвае:

— Нічога не асталося. „Сірэну" на панадворку вы бачылі? Вось яна і асталася.

**Віктар Рудчык**



**ЗБУЧ НЕ АДСТАЕ**

Чыжоўская гміна, у якой знаходзіцца вёска Збуч, заваявала ў мінулым годзе сабе месца сярод найлепшых, найбольш гаспадарных гмін Беластоцкага ваяводства. У Збучы жыве шмат перадавых гаспадароў. Яны спецыялізуюцца перш за ўсё ў жывёлагадоўлі, а таксама ў вырошчванні ільну і рапаку.

Фота **В. Рудчыка**




*У аднаго жыхара Белавежы ў радыё пасялілася мыш і зрабіла там сабе гняздо. Радыё перастала іграць. „Папсавалася", — сказаў гаспадар і пашукаў тэхніка. Той прыйшоў, адкрыў сценку і высыпалася адтуль штук дванаццаць мышанят, а за імі і маці вылезла, са здзіўленнем на свет спаглядаючы. Відаць, турысты так нахлынулі на Белавежу, што і мышам месца не асталося.*

**(мф)**

## ФАЛЬКЛОР

**ВЯСНЯНКА**




*Ой, вышніе, вышніе, чэрэшніе,*
*спускайтэ голле до зэмліе,*
*нэ так до зэмліе — додолу.*
*Тіхі соловей гныздо в'е,*
*тіхі соловей гныздо в'е —*
*пэрэпёлонька пэрэв'е —*
*пэрэпёлонька пэрэв'е.*
*Пэрэпёлонька — молода Марыся.*
*Служыў Рыгорко королю —*
*заслужыў Марысю, як зору.*
*Ой, зора, зора ясная,*
*а ты, Марысю, красная.*

Ад Леўчук Агаты, 1906 года нараджэння, вёска Бялкі гм. Мілейчыцы, запісаў у маі 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ТАК БЫВАЕ...

# ЯК ЗВЕРЫ

— Што робіш, Баніфат, адумайся! Не табе яна раўня.

Не адзін так гаварыў Баніфату, старому гарадскому кавалеру, які ў сорак год сабраўся да жаніцьбы з вясковай прыгажуняю, якой не было яшчэ і васемнаццаці. Найбольш дакучала яму бабуля. Прасіла, лаяла, плакала.

Загневаўся смяртэльна на бабулю. Ганарыўся тым, што бярэ маладую дзяўчыну ды з багатай сям'і, ад якой можна шмат чаго пацягнуць у якасці пасагу.

І ажаніўся Баніфат. Пачаткова жылося добра. Так было гадоў дзесяць. У іх рос сын, якога яны вельмі песцілі. Ён стаў найважнейшай асобай у хаце. Яму было можна ўсё. Праз нейкі час у сям'і Баніфата стала нешта псавацца. Жонка ўсё часцей прымушала яго займацца дамашнімі справамі, а сама кудысьці бегла, штосьці ўладжвала, выязджала. Яна заўсёды мела рацыю: і тады, калі забірала ў мужа ўсе яго ашчаднасці, і тады, калі малявалася і пудрылася, адыходзячы на нейкі ўрачысты вечар.

Калі Баніфату было ўжо за 60, ён пачаў падазраваць жонку ў здрадзе. Тады Баніфат падумаў, што не павінен аддаваць жонцы ўсіх сваіх дырэктарскіх грошай. І асмеліўся ёй сказаць, што ў яго адабралі прэміі ды пачаў рэгулярна адкладаць кожны месяц на ашчадную кніжку. Тады першы раз у жыцці сказаў жонцы няпраўду, ашукаў яе. Але яна на такую дробязь не звярнула асобай увагі. Пасля Баніфат выйграў у таталотак 100 тыс. зл. І аб гэтым нічога не сказаў. Пасля такой падзеі менш сталі непакоіць яго ашуканствы і гулянкі жонкі, якая рабіла гэта ўсё нахальней.

Сын Баніфата тым часам ажаніўся. Жыў з жонкаю не надта добра, яго скупасць выбівала яе з жыццёвай раўнавагі. Смяяліся на рабоце з яе мужа, што за 100 злотых, сабраныя з гледачоў, аж тры разы браў у рот нежывую мыш.

— Пляваць на смех, важны грошы, а ўсё астальное ерунда, — даказваў ён жонцы.

Вось гэты адзіны сын Баніфата выпадкова даведаўся, што яго прабабка вельмі багатая, мае некалькі соцень тысяч злотых. І пачаў ён ездзіць да прабабкі, пачаў паддабрацца, пачаў гаварыць, што ёй у Беластоку разам лепш жылося б, было б весялей. І дабіўся свайго. Ні да каго іншага, толькі да яго, да свайго праўнука, яна згадзілася пераехаць, калі было ёй ужо больш 90 гадоў.

Прабабка, прыехаўшы да праўнука, з самага пачатку далажыла 100 тыс. зл. на „Ф'ят". Праўнук усё рабіў, каб да бабулі ніхто не прыходзіў са сваякоў. Баяўся, каб яна не пачала іншым дарыць грошы. Гэты страх яшчэ больш мабілізаваў сына Баніфата да вымання грошай у старэчы. І выманіў. Бабуля перапісала на яго сваю ашчадную кніжыцу. А калі было гэта ўжо зроблена, сын Баніфата ахаладзеў да яе. Бабульцы не сталі пазваляць выпаўзаць са свайго пакоя, падыходзіць да стала, калі ён з жонкаю і дзецьмі прысядуць да яды. Проста сталі чакаць смерці 94-гадовай прабабкі. Бабка была пры памяці. Пачулася пакрыўджанай. І гэта крыўда наблізіла яе смерць, з якой усе былі задаволены ў гэтай хаце.

На некалькі месяцаў перад смерцю прабабкі Баніфат атрымаў развод са сваёй жонкай і вымушаны быў пакінуць свой дом, пачакаць больш месяца кватэры ў блоку. Тады звярнуўся ён да сына, каб гэты час пражыць у яго. Сын не прыняў бацькі. Засланяўся цеснай кватэрай. Бацька такія адносіны свайго сына так перажыў, што нават расхварэўся і апынуўся ў бальніцы. Праз два тыдні наведаў Баніфата яго сын і спаткаўся там з пажылою жанчынай, якая прыйшла да бацькі з кветкамі. І вось ад гэтай жанчыны даведаўся сын, што калі бацька атрымае кватэру ў блоку, яна пяройдзе да яго.

— Найгорш быць адзінокаму, — сказала. — Дваім нам будзе весялей. Якнебудзь будзем жыць. Маем пенсіі ды яшчэ маем грошы ў ПКО.

І сын далікатна выпытаў, колькі ў ПКО грошай у бацькі. І даведаўся, што 150 тысяч. І аж губу прыкусіў ад такой нечаканасці. Сам сабе стаў пляваць у бараду, што дапусціў памылку, не прымаючы бацькі ў сваю хату. І раптоўна змяніў тактыку. Назаўтра паслаў свайго сына ў бальніцу з супам на цяляціне, з яблыкамі і кампотамі.

— Знаеш, мой даражэнькі ўнучак, занясі ўсё гэта свайму тату, — адправіў хлапчука Баніфат.

Сын да сёння не можа даравацць сабе, што не ведаў аб грошах бацькі.

**Міхась Сваяк**

## JANIS JOPLIN



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:**

Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі з Бельска, Г. Гаінская, Г. Капчэская са Страблі.




Дарагое Сэрцайка, выпісваю я „Ніву“ і, хаця ўжо не маладая, але цікавяць мяне твае парады. Я маю клопат са сваім сынам. Ён у нас адзін. Закончыў ужо вайсковую службу і збіраецца жаніцца. Праўда, дзяўчына прыгожая, закончыла школу, працуе. Яна ў адным класе з сынам вучылася, і ўжо тады яны сябраваць пачалі. Але я тады і ўвагі не звяртала, ат дзеці яшчэ, вырасце — іншую знойдзе. Але дзе там! Пайшоў у войска, дык і лісты да яе пісаў і прыязджаў. А калі вярнуўся, дык заявіў, што жаніцца будзе. Я не магу згадзіцца з ім, бо бацькі яе вельмі няслаўныя. Спачатку піў толькі бацька. Ганяў жонку і дзяцей, па суседзях даводзілася ім скрывацца, а потым пачала і маці піць. Праўда, на іх дачку ніхто нічога дрэннага не скажа. Як там у хаце не было, але дзяўчыну ў школе настаўнікі ў прыклад іншым ставілі. А цяпер яна ўжо працуе. І сын сказаў, што яна яму падабаецца і жонкай яго будзе. Колькі я яму гаварыла, каб не лез у гэтую сям'ю! Што рабіць, Сэрцайка?

Надзя з Беластока

Надзя, нельга дзяўчыну абвінавачваць за дрэнныя ўчынкі бацькоў. Трэба якраз хваліць яе за тое, што ў такіх цяжкіх сямейных умовах змагла быць яшчэ прыкладам іншым. Няма ніякіх падстаў перашкаджаць сыну. Чалавека ж трэба ацэньваць паводле яго ўласных учынкаў, а не абвінавачваць за чужыя.

**Сэрцайка**

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

Незвычайны выпадак адбыўся ў бальніцы венгерскага горада Капашвар. Там знаходзіўся Янаш Пэк, які 11 гадоў назад трапіў у аўтамабільную аварыю, у выніку чаго ён страціў мову. Нядаўна Я. Пэк разам з іншымі хворымі слухаў рэпартаж аб футбольным матчы (ён заўзяты балельшчык мясцовай каманды). У той момант, калі дыктар сказаў, што нападаючага мясцовай каманды збілі ў штрафной пляцоўцы гасцей, Я. Пэк разам з іншымі хворымі закрычаў „пенальці!“...

Пасля гэтага ён пачаў зусім нармальна размаўляць. Урачы так растлумачваюць гэта цудоўнае вылечванне: паколькі Я. Пэк страціў мову ў выніку нервовага ўзрушэння, эмацыянальнае ўзбуджэнне ў час трансляцыі матча дапамагло яму зноў набыць мову.



Мой Астронку! Прысніўся мне файны сон. Быццам я з мужам пайшла ў лес па грыбы. Ходзім па лесе, ходзім, ажно бачу: цэлая „плантацыя“ баравікоў — грыбоў, аб якіх я марыла, каб іх знайсці. Я да іх, мой муж таксама. Пачынаем іх збіраць. А яны прыгожыя, з карычневымі галоўкамі, вядома, праўдзіўкі! Але ў гэты момант падыходзіць да нас нейкая жанчына (ні то з дзіцём, ні то адна), а я кажу: „Хавайма ад яе баравікі“. Знімаю з галавы капялюш і накрываю ім купку найпрыгажэйшых, яшчэ не сарваных грыбоў. Жанчына ж кажа, што шукае свае каралі, якія недзе ў лесе згубіла. Я адказала, што мы іх нідзе не бачылі, і яна пайшла, не заўважыўшы нашых грыбоў. І тут я прачнулася.

Магда

### ВЕР-НЕ ВЕР

Прыснілася мне, што ў хлопца, з якім я хаджу, вяселле: жэніцца ён з дзяўчынай з суседняга сяла. Я гэтай дзяўчыны не ведаю. І я ў сне вельмі пакрыўджана, што мой хлопец не запрасіў мяне на вяселле. Я не была на гэтым вяселлі. І я так падумала, што не будзе ён прыязджаць да мяне. Што гэты сон можа абазначаць?

Геня з Гайнаўшчыны

**Магда!** Сон ваш вельмі цікавы і сімвалічны. Нейкая жанчына хоча перашкодзіць вашаму каханню (вы ж баяліся, што яна будзе збіраць грыбы з „вашай плантацыі“). Вам удалося, аднак, выратаваць грыбы ад яе вока, накрываючы іх капелюшом, дык, думаю, што і каханне ваша вы выратуеце (бадай пры дапамозе нейкай дальняй дарогі). Жадаю поспехаў!

**Геня з Гайнаўшчыны!** Твой сон можа абазначаць, што пасварышся са сваім хлопцам.

**Астрон**




### СЁННЯ МОДА ДЛЯ МУЖЧЫН

Каб не занядбаць у нашай рубрыцы мужчын, падаем сёння адзін з модных фасонаў спартыўных пінжакоў. Гэта пінжак у так званым стылі Шэрлока Холмса. Ён пашыты з матэрыялу ў пепітку, а верхняя і дзве ніжнія кішэні аздоблены мяккім замшам (можа быць таксама скура), з замшу зроблены таксама гузікі.

Да пінжака варта апрануць штаны, якія колерам падыходзілі б да пепіткі.

Звярніце ўвагу, як апрануты мужчына на здымку: пад пінжаком светлая кашуля, а на ёй яшчэ ваўняны блезер, які можна насіць таксама наверх, без пінжака. На шыі завязана хустачка, яе канцы схаваны пад кашулю. На галаве — шапка з такога ж матэрыялу, што і пінжак.

Такая вопратка была б вельмі адпаведнай для мужчын, якія любяць спартыўны стыль і маюць у сваім гардэробе большасць вопраткі з тэхасу, а ён жа, як вядома, памаленьку выходзіць з моды.

**Сяброўка**



### У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Візіт... Ваколіцы вёскі Малявічы Дольныя гм. Саколка.*
*Фота М. Гайдука.*

### КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: В. з літасці прыняў да сябе і ўтрымоўвае інвалідку I групы, якая з'яўляецца бездапаможнай і вымагае пастаяннай апекі. Яна мае двух братоў, якія аб ёй не клапоцяцца. Ці В. можа атрымаць нейкую дапамогу на ўтрыманне гэтай інвалідкі і, калі так, куды павінна ў гэтай справе звярнуцца?

АДКАЗ: Паколькі інвалідка мае братоў, яны маюць абавязак утрымоўваць яе. Зразумела, бездапаможная інвалідка I групы не зможа дабівацца сваіх правоў. Таму трэба звярнуцца да органа грамадскай апекі, які можа даць неадкладную дапамогу інвалідцы і накіраваць справу ў суд з патрабаваннем ад яе братоў аліментаў. Таксама грамадзянка В., якая дагэтуль утрымоўвала інвалідку, мае права звярнуцца ў суд з патрабаваннем прысуджэння ад братоў інвалідкі звароту зробленых ёю выдаткаў на ўтрыманне інвалідкі. Орган грамадскай апекі мог бы прызнаць пастаянную дапамогу інвалідцы, калі б не было асоб, абавязаных законам да яе ўтрымання або гэткія асобы былі ў маёмаснай сітуацыі, якая не давала б магчымасці ўтрымоўваць інвалідку.




### ЗАДАННЕ АСАБЛІВАЙ ВАЖНАСЦІ

Маёр атрымаў назначэнне ў штаб 65-й арміі і меў намер завідна выехаць туды. Але яго папярэдзілі, што ехаць можна толькі ноччу: патрабаванні маскіроўкі захоўваюцца строга і безагаворачна.

Як заўсёды, на новым месцы за работу ўзяўся з запалам, але пісьмы Мацвееву і Яніне напісаць не забыў. Нечакана контрразведчык прыехаў на фронт сам. У бліндажы арганізавалі вячэру.

Загаварылі аб справе.

— Ці можна тут, у стэпе, утаіць ад праціўніка рух войск да фронту? Немцы закідваюць у наш тыл сотні агентаў, стараюцца захапіць палонных, вядуць радыёперахоп і пастаянную паветраную разведку... Вось перад намі стаіць задача: падмануць, дэзінфармаваць ворага, адцягнуць яго ўвагу ад месц, дзе сапраўды рыхтуецца ўдар.

Мацвееў памаўчаў.

— Поспех у многім залежыць ад вас, Васіль Іванавіч. Мы высветлілі, што Казімір — стары агент германскай разведкі. У пачатку вайны стаў афіцыйным супрацоўнікам абвера. У сваіх гаспадароў ён карыстаецца павагай і давер'ем. Немцы, напэўна, прышлюць да нас сувязнога, магчыма, і самога Казіміра. Усё, што перадасцё сувязному, будзе вядома германскаму камандаванню.

— Што трэба рабіць? — з гатоўнасцю запытаў Нікольскі.

— Яны будуць шукаць з вамі сустрэчы. У хуткім часе абстаноўка тут зменіцца, таму нам для пераканаўчасці дазволена перадаць праз вас ворагу некаторыя сапраўдныя даныя...

Абмеркаванне зацягнулася да глыбокай ночы. Развітваючыся, Мацвееў сказаў:

— Праз тыдзень вас часова перавядуць у тылы арміі. Гэта зробім мы. Вы паселіцеся непадалёк чыгуначнай станцыі і будзеце жыць на адным месцы да наступлення нашых войск. Заўтра ў Маскву паедзе наш супрацоўнік. Пад выглядам вашага таварыша-саслужыўца ён перадасць ад вас Яніне пісьмо і невялікі гасцінец і раскажа, дзе вы знаходзіцеся. Трэба ж дапамагчы немцам адшукаць вас.

### КАЗІМІР ВЯРТАЕЦЦА

У гэту раніцу Нікольскі прачнуўся рана, хацеў устаць і ісці на службу, але гаспадыня хаты, дзе ён быў на кватэры, ветлівая, клапатлівая Фёкла Апанасаўна ўгаварыла яго пачакаць снедання.

— Паляжы крыху. Сёння — дзень Кастрычніка! — напомніла яна.

У печы патрэсквалі дровы, нешта шыпела, прыемна пахла дымком і свежавымытай падлогай.

Нехта пастукаў з вуліцы ў акно. Фёкла Апанасаўна выйшла ў двор. Размовы не было чутна, але вось бразнула клямка веснічак.

— Цябе, Васіль Іванавіч, пытае нейкі ваенны, — сказала Фёкла Апанасаўна, уваходзячы ў хату.

Нікольскі глянуў. Не адважваючыся ступіць у ботах на белую чыстую падлогу, у дзвярах стаяў Казімір.

Яны разам паснедалі і выйшлі на двор. Азірнуўшыся, Казімір перайшоў да справы:

— Я быў у Маскве, прывітанне вам ад Яніны.

— Дзякуй, — адказаў падпалкоўнік.

Казімір працягваў:

— Сям'я ваша здаровая. Жывуць у Іванаўцы. Праўда, дзеці ў школу не ходзяць, у вёсцы няма настаўніцы. Па загаду Бауна я зімой перадаў Алесі два мяшкі мукі, воз бульбы, збан масла і свіную тушу...

„Сволач“, — падумаў Нікольскі, але ўголас падзякаваў Казіміру і Бауну.

— Дзякуй, браток! Ты меў рацыю. Лета паказала, што становішча Саветаў безнадзейнае. Хутка канец усяму!

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Гмінная арганізацыя ТККС

У сваёй дзейнасці гміннае праўленне Таварыства прапагандавання свецкай культуры (ТККС) увайшло ў кантакты з рознымі гміннымі ўстановамі, як, напрыклад, загс і інш. Вядуцца ўсеагульныя ўніверсітэты ў Масеве, Скупаве, Ляшуках і Луцэ. У Старым Ляўкове чытаюцца даклады аб дзейнасці арганізацыі. Вельмі заангажаваліся ў гэтую працу настаўнікі: Янка Савіцкі, Янка Ціванюк, Аляксандр Харкевіч, Васіль Цялупіцкі і іншыя. Іх глыбокія веды, педагагічны вопыт і аўтарытэт прыносяць добрыя вынікі. Дапаможнікамі ў гэтай працы бываюць фільмы, газеты, кніжкі.

Арганізацыя ТККС Нараўкаўскай гміны будзе ў далейшым кіравацца ў сваёй ідэйна-выхаваўчай працы ўказаннямі партыі — выхоўваць чалавека заангажаванага, культурнага, адданага справе.

Трое сярод дзеячоў таварыства ў гміне Нараўка былі ў гэтым годзе ўзнагароджаны знакам „Заслужаны дзеяч ТККС“. Гэта Янка Савіцкі, Янка Ціванюк і ніжэй падпісаны.

**Аляксандр Закройшчык**

## Сярод лесу на ўзгорку

Адным з найпрыемнейшых месц адпачынку беластачан з'яўляецца Пульпа, у 2 км ад Супраслі. Крутой лясной сцяжынкай, што ўецца, як вуж, можна дайсці да яго. Усе, хто шукае цішы і спакою, тут іх знойдзе. Праз лес цячэ рака, а далей лугі зялёныя. На ўзгорку, які спадае ўніз да рэчкі Супрасль, размясціўся цэнтр адпачынку „Трамп“, які належыць да ВПГВ.

У летнім сезоне адпачывае тут у сярэднім 500 чалавек. Жывуць у прыгожых доміках, ёсць сталовая і кавярня з цудоўным камінам.

Тут ёсць усе прылады для культурных і спартыўных гульняў. Нават саўна ёсць.

Гэты прыгожы адпачынковы цэнтр працуе таксама вясной і восенню, ахвотных ёсць многа. А зімой тут кулігі — экскурсіі па снежным лесе. Сапраўдная казачная краіна!

**(гай)**

## На білет, ці на піва?

Аб гэтай справе хацеў я ўжо даўно напісаць. Ад часу да часу бываю ў Беластоку і амаль кожны раз сустракаю людзей, якія мяне ці кагосьці з праходжых затрымліваюць і просяць даць ім на аўтобусны білет, бо якраз гэтак выйшла, што яны быццам згубілі кашалёк, або не хапіла ім грошай.

Маю падставы дапускаць, што людзі гэтыя ў большасці звычайныя ашуканцы. Ужо па іх выглядзе відаць, што або яны п'яныя, або гультаі. Пройдзецца такі Рынкам Касцюшкі і заўжды збярэ на піва або і пляшку гарэлкі. Навошта яму мучыцца працай? Чалавек сумленны і ганаровы, калі яму і не хопіць грошай на аўтобусны білет, часцей за ўсё пойдзе пехатой, а не будзе чапляцца ў такой справе да незнаёмых. Варта, каб гэтымі ашуканцамі занялася міліцыя.

**П. Байко**

## ПАРНАСІК
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### КІДАЎ ЛЁС

*Кідаў лёс мяне па свеце,*
*І ў Амерыцы я быў.*
*Але што ў краю прыкмеціў,*
*Не забыў мне родных ніў.*
*Сваю вёску, дзе радзіўся,*
*Дзе жылі продкі мае,*
*Роднай мовы дзе вучыўся,*
*З вуснай маціры свае.*
*Усё роднае мне сніцца,*
*Лес і луг ў вачах стаяць.*
*Рэчка Супрасль срэбрам рдзіцца,*
*Кут мой родны і ачаг.*
*Там душою я, паверце,*
*А жыву далёка я.*
*Плоў, шашлыкі ем у Ташкенце,*
*Бульба пахне мне мая.*
*Думкамі лячу да краю.*
*Тут чагосьці не стае?*
*А дакладней, дык я знаю —*
*Беласточчыны мае.*

**Валошка**
Ташкент

## Найпрыгажэйшыя агародчыкі на пасёлку

З думкай, каб наш пасёлак быў найпрыгажэйшым у горадзе, пасёлкавы камітэт № 4 у Гайнаўцы арганізаваў сярод жыхароў конкурс на найпрыгажэйшы гародчык. У конкурсе прыняло ўдзел 50 дамоў, якія ўпрыгожылі нашы вуліцы кветкамі. Камісія ў складзе: Міраслава Раманоўская, Надзея Тапалеўская, Іра Кірылюк і Севасцьян Маркаў наведалі ўсіх удзельнікаў конкурсу і зрабілі ацэнку.

Першае месца заваяваў і ўзнагароду начальніка горада — 700 злотых, атрымаў Ян Ганішэўскі з вуліцы Бжазовай. Другое месца — Анна Гаўрылюк з вуліцы Ліповай (узнагарода дырэктара Ваяводскай паслуговай спулдзельні працы ў Гайнаўцы — 500 зл.). Трэцяе месца заняў Рыгор Грыгарук з вуліцы Пралетарскай — 300 зл. Чацвертае месца — Ніна Бірыцкая з вуліцы Ліповай — 250 зл. і пятае месца — Надзя Ражкевіч з вуліцы Варынскага — 250 зл.

Па прычыне вялікага зацікаўлення конкурсам камісія запрапанавала дадаткова ўзнагародзіць дыпломамі Яна Залубіняка, Зыгмунта Зялінскага, Лідзію Бараноўскую, Надзею Аляксеюк і Сяргея Хіліманюка.

**Э. Вайсковіч**

## Перадавыя трактарысты з Гродзіска

У час сёлетняга жніва вельмі добра працавалі снопавязалкі са спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Сухаволі. Разам яны выпрацавалі больш як 5.000 гадзін. На 35 снопавязалак аж 19 трактарыстаў выпрацавала па 150 гадзін. Найбольш працавалі трактарысты з ЗУМ („заклад услуг механізацыйных“) з Гродзіска: Юзэф Гадлеўскі працаваў 245 гадз., Рамуальд Ступак — 187, Ян Галіцкі — 181, Рамуальд Скаўронскі — 179, Юзэф Ярашэвіч — 175 гадзін. Гэта вынік уласцівай арганізацыі працы пад кіраўніцтвам Вацлава Ступака, які кіруе ЗУМ-ам у Гродзіску.

У жніўных працах добрыя вынікі маюць трактарысты з Сухаволі: Рэмігіюш Козлік — 197 гадз., Юзэф Маліноўскі 191, Мечыслаў Кацпроўскі — 173, Бенедыкт Крэтовіч з Вулькі — 159, Ян Гурын з Хадароўкі Новай — 157 гадзін. Усе яны здабылі ўзнагароды ВЗКР у Беластоку.

**(г)**

## ДАЙЦЕ ТЭЛЕФОН!

На тэрыторыі Супрасльскай гміны працуюць два інсемінатары: Станіслаў Мікульскі з хутара Генрыкова і Ян Матавіцкі з вёскі Агароднічкі. Абодва яны не маюць тэлефона ў сваіх вёсках. Ян Матавіцкі стараецца ўжо некалькі гадоў. На вясковых сходах гэтую справу ўзнімалі солтысы і гаспадары. Гаварылі, што інсемінатары павінны мець тэлефоны. Упраўленне гміны і горада ў Супраслі накіравала пісьмо ў ВУТ у Беластоку і таксама ніякага адказу. А Ян Матавіцкі, напрыклад, абслугоўвае гаспадароў з вёсак: Сакалда, Варанічы, Міжрэчча, Лазні, Падлазні, Суражкова, Цяснэ, Каракулі. Гэта адлегласць ад 10 да 15 км.

І здаецца нам, што гэту справу трэба неадкладна вырашыць. Варта, каб дырэктар Ваяводскага тэлекамунікацыйнага ўпраўлення гэтым заняўся. Гаспадарам гміны Супрасль трэба прыйсці з дапамогай.

**(гай)**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У вёсцы Рэпнікі каля Заблудава матацыкл „ВСК“ наехаў на прыдарожнае дрэва. Пасажыр быў цяжка паранены.

У Саколцы матацыкліст наехаў на 6-гадовага хлопчыка з Саколкі, пакінуты без апекі дарослых, ён неасцярожна выбег на сярэдзіну вуліцы.

У Чаромсе п'яны матацыкліст ударыўся ў бетонны энергетычны стоўб і памёр на месцы. Яго пасажыра, цяжка параненага і непрытомнага, адвезлі ў шпіталь.

У Беластоку на скрыжаванні вуліц стукнуліся два матацыклы. Адзін з пасажыраў цяжка параніў галаву.

Усе гэтыя прыклады павучаюць: будзь асцярожны, калі едзеш на матацыкле!

## Засмечваюць пушчу!

У „Ніве“ даўней паявілася заметка гайнаўскага карэспандэнта аб засмечванні жыхарамі Гайнаўкі той тэрыторыі Белавежскай пушчы, якая непасрэдна мяжуе з горадам. Рашыў і я праверыць, як прадстаўляецца гэта справа з боку Белавежы.

У адну з вераснёвых нядзель панаглядаў я тэрыторыю ўздоўж шашы Белавежа-Гайнаўка на адрэзку ад дома дарожнага абходчыка да Сініцкай дарогі. Выявілася, што і тут знойдзеш хутчэй стары гумовы бот, бляшанку ад фарбы, пляшку, дзіравы чыгунок, усялякія паперы, чым, напрыклад, грыб. Цікава, што смецце валяецца і ў значнай адлегласці ад шашы і ўздоўж папярэчных дарог. Яно не ляжыць на адным месцы, а раскідана па цэлым лесе. Хто яго раскідае, цяжка адназначна сказаць. Напэўна найбольш вінаваты ў гэтым самі белавежцы, а дапамагаюць ім турысты, якія тут затрымліваюцца, і ля шашы ў цяні векавых хвояў і ялін арганізуюць папойкі. Хто б аднак гэтага не рабіў — робіць вельмі дрэнна. Засмечаны лес — кожнаму непрыемная рэч, а самому лесу — шкодная.

**П. Байко**

## Спартыўны СКР

СКР-ам у Бельску кіруе інж. Вітальд Сакалоўскі. Тут працуе 260 асоб. Сярод працаўнікоў многія займаюцца спортам. Каманда бельскага СКР-у прымала ўдзел у I ваяводскіх гульнях сельскагаспадарчых гурткоў у Супраслі ў мінулым годзе, дзе заняла трэцяе месца. З бельскага СКР-у прыехала тады 40 спартсменаў, у тым ліку 16 жанчын.

У гэтым годзе ў II ваяводскай спартакіядзе сельскагаспадарчых гурткоў, таксама ў Супраслі, з Бельска было аж 53 асобы. Калектыўна занялі шостае месца. Але ў валейболе дзяўчаты з Бельска занялі другое месца. Каманда бельскага СКР-у змагалася салідна, і было відаць, што працуе ўсё лепш.

**(гай)**

## Аб нашай Гайнаўцы

Я стары жыхар горада. На маіх вачах наступіла вялікая перамена горада. Многа ў гэтым заслугі прадпрыемства камунальнай і жыллёвай гаспадаркі (ПГКМ). Я звярнуўся да дырэктара прадпрыемства інжынера Уладзіміра Данілюка, каб ён пазнаёміў чытачоў „Нівы“ з іх дзейнасцю і дасягненнямі. Вось што я запісаў.

ПГКМ — установа маладая. Узнікла ў 1967 годзе. Вядзе паслуговую дзейнасць. На пачатку выконвала яна паслугі на суму 2 мільёны зл., а ўжо ў 1976 годзе — на суму 27 мільёнаў зл.

Дзейнасць вядзе ўсебаковую, звязаную з хуткім развіццём горада. Пастаўляе ваду гораду, пабудавала дарогі і займаецца іх доглядам, а таксама эксплуатацыяй кватэр, пастаўляе бесправадны газ у кватэры, дбае пра гарадскую зелень. За дзесяць гадоў пабудавала сацыяльныя будынкі, варштаты, водаправод, парк, ачышчальню, праклала дзесятак вуліц і тратуараў.

У гэтай працы прадпрыемства мае адданых, заангажаваных працаўнікоў, як Генрык Стульгіс, Рыгор Андрэюк, Люба Адамюк і іншыя.

Ужо другі раз гайнаўскае ПГКМ заваявала першае месца ў ваяводскім спаборніцтве працы, а ў краёвым спаборніцтве заняло другое месца.

Працаўнікі рашылі здабыць першае месца трэці раз у 1977 годзе, бо хочуць, каб пераходны сцяжок ваяводы застаўся ў іх назаўсёды. Вынікі першага паўгоддзя сведчаць аб тым, што змогуць гэтага дабіцца.

**Э. Вайсковіч**

## Весткі з белліцэя ў Бельску

Школьны год толькі што распачаўся, а настаўніцы беларускай мовы мгр Зінаіда Дзем'янюк і мгр Вера Рышчук паклапаціліся пра беларускую прэсу. Усе вучні нашай школы выпісалі „Беларусь“ і „Ніву“. Абодва гэтыя часопісы выкарыстоўваюцца на занятках. Яны вельмі папулярныя ў нашым ліцэі. З іх можна многа цікавага даведацца, і таму вучні выпісваюць іх з ахвотай. Вучні нашай школы выпісваюць таксама такія савецкія часопісы, як „Піянер“ і „Равеснік“.

**В. Анапюк**

## НА НАШЫХ ДАРОГАХ

Задаю сабе пытанне, для чаго служаць дарожныя ўказальнікі. Едзеш вось дарогай, стаіць слуп, а на ім на дошцы напісана: Пасынкі, Бельск ці іншая мясцовасць. Добра гэта. Ведаеш адразу, якая вёска ці горад перад табой. А вось які непрыемны прыклад здарыўся каля вёскі Кнаразы ў Бельскай гміне. Едучы з Храбалоў, бачыш тут, што дарожны ўказальнік ляжыць у траве. Ужо доўгі час ён так ляжыць і аж дзіўна робіцца, што ніхто ім не зацікавіўся. Ёсць жа солтысы па вёсках.

**Дубінка**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „У НАШАЙ ВЁСЦЫ БОЎТРЫКІ“, „Ніва“ № 32/1119 ад 7 жніўня 1977 года.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI URZĄD POCZTY W BIAŁYMSTOKU.**

Dyrekcja Wojewódzkiego Urzędu Poczty w Białymstoku po zbadaniu sprawy wyjaśnia, że rozmowa telefoniczna do szpitala w Sokółce była zamówiona bez podania numeru w Urzędzie Pocztowo-Telekomunikacyjnym w Michałowie o godz. 10.00. Telefonistka UP-T w Michałowie podała numer telefonu szpitala dla naczelniczki UP-T w Szymkach po przeszło godzinie czasu. Ob. naczelniczka kilkakrotnie reklamowała zamówioną rozmowę, lecz bez skutku, ponieważ numer nie odpowiadał. O tym abonent był informowany. Ob. Luszewska zrezygnowała z zamówionej rozmowy o godz. 14.30.

Naczelniczka poczty w Szymkach ponosi winę za to, że od godz. 9.00 do 10.00 nie chciała przyjąć rozmowy bez podania numeru i udzielała błędnej informacji, aby abonent przyjeżdżała do UP-T w Szymkach ze wsi Bołtryki odległej 5 km celem wyszukania numeru telefonu szpitala w Sokółce. Zgodnie z naszymi przepisami uzupełnienie zamówienia na rozmowę numerem abonenta należało do naczelniczki Urzędu Pocztowo-Telekomunikacyjnego, która obowiązana była ją przyjąć i wyszukać żądany numer w spisie telefonów województwa białostockiego. (Spisy telefonów były rozprowadzane wtedy, kiedy we wsi Bołtryki nie było jeszcze zainstalowanego telefonu.)

W stosunku do naczelniczki UP-T w Szymkach zostały wyciągnięte odpowiednie wnioski służbowe.

Dyrekcja Wojewódzkiego Urzędu Poczty w Białymstoku za pośrednictwem tygodnika „Niwa" przeprasza Ob. Luszewską za wynikłe kłopoty z otrzymaniem połączenia telefonicznego ze szpitalem w Sokółce i wyraża nadzieję, że podobne wypadki nie będą miały miejsca w dalszej pracy naczelniczki poczty w Szymkach.

**Dyrektor WUP**
**Janina Symaniuksztis**

**Да публікацыі „НІКОМУ НЕПАТРЭБНА?“, „Ніва“ № 29/1116 ад 17 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W KLESZCZELACH.**

W odpowiedzi na notatkę pt. „Nikomu niepotrzebna?" Urząd Gminy w Kleszczelach informuje, że remont kapitalny świetlicy we wsi Policzna trwa tak długo ze względu na kłopoty z otrzymaniem materiałów budowlanych oraz opieszałości wykonawców.

Do wykonania pozostają posadzki, malowanie pomieszczeń oraz uzupełnienie tynków na zewnątrz budynku.

Przewidywany termin oddania budynku świetlicy do użytku ustalono do dnia 15 listopada 1977 roku.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**L. Wilk**
**Sekretarz Biura**

**Да заметкі „АБ СКУПЦЫ ЯЕК“, „Ніва“ № 35/1122 ад 28 жніўня 1977 года.**

**Адказвае: ZARZĄD GMINNEJ SPÓŁDZIELNI „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W KLESZCZELACH.**

Zarząd Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Kleszczelach w odpowiedzi na notatkę prasową pt. „O skupie jaj" z 35/1122 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 28 sierpnia 1977 roku wyjaśnia, że zgodnie z Zarządzeniem Ministra Finansów z dnia 31 I 1959 r. art. 10 a (Dz. U. nr 11 poz. 60 z 1959 r.) skupującym jaja potrącany jest podatek według tabeli D w/w Zarządzenia, dlatego też Ob. Annie Panfiluk od zarobionej kwoty 3 668 zł w miesiącu marcu potrącono podatek w wysokości 816 zł.

Nadmieniamy, że na wysokość podatku Gminna Spółdzielnia nie ma żadnego wpływu.

**Prezes GS**
**N. Petelska**

**Да заметкі „КЛУБ ГЭТА ЦІ КРАМА?“, „Ніва“ № 31/1118 ад 31 ліпеня 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W BIELSKU PODLASKIM.**

We wsi Saki był Klub Rolnika i w prywatnym budynku sklep. Z czasem właściciel budynku, w którym był sklep, zrezygnował z pracy i wypowiedział lokal. W tej sytuacji mieszkańcy wsi Saki zwrócili się do Zarządu GS o urządzenie sklepu w pomieszczeniach klubowych.

Sprzęt klubowy wkrótce zostanie zabrany do powstającej placówki kulturalno-oświatowej we wsi Parcewo.

Gdyby mieszkańcy wsi Saki ponownie zechcieli mieć u siebie tylko klub, Zarząd GS „Samopomoc Chłopska" nie będzie stawiał przeszkód w tym zakresie.

**Viceprezes Zarządu**
**Jan Chilimoniuk**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартумар

# КАЛАБОК

Жыў ды быў Калабок. Калабок Іван Мітрафанавіч. І ад дзядулі ён уцёк, і ад бабулі ўцёк. І ад жонкі з двума дзеткамі таксама. Так і гуляў па белым свеце, дакладней, хаваўся ад ненавіснага яму ліста, які называецца выканаўчым.

Каціўся, каціўся Калабок і дакаціўся да мажнай дзяўчыны — Жаны Мікітаўны Заяц. А праз некаторы час кажа яна Калабку:

— Калабок, Калабок, у нас хутка будзе маленькі Калабок, ідзем у ЗАГС рэгістравацца.

Стаў Калабок у позу і заспяваў:

Ад дзядулі я ўцёк,
Ад бабулі я ўцёк,
І ад Клаўдзі я ўцёк,
Ад дваіх дзяцей уцёк
І ад цябе, Жаначка, уцяку.

А потым капялюш на галаву ды за парог.

Каціўся Калабок, каціўся, і вось сустракаецца яму на шляху добрая кабета з кватэрай і машынай — Ванда Патапаўна Воўкава. Калабку з першага погляду спадабалася кватэра і машына, і стаў Калабок жыць у Ванды Патапаўны. І месяц жыве, і два жыве, песенькі спявае, адпачывае. Нарэшце, кажа яму Ванда Патапаўна:

— Калабок, Калабок, хопіць быць дармаедам, пара на працу ўладкоўвацца.

Не спадабалася гэта Калабку і заспяваў ён прыемным галаском:

Ад дзядулі я ўцёк,
Ад бабулі я ўцёк,
І ад Клаўдзі я ўцёк,
І ад Жаны я ўцёк,
Ад траіх дзяцей уцёк
І ад цябе, Воўкава, уцяку.

І ўцёк, прыхапіўшы каштоўнасці Ванды Патапаўны.

А неўзабаве сустрэў Калабок Вераніку Цітаўну Мядзведзеву, афіцыянтку рэстарана „Сунічка". Абадраў Калабок Вераніку Цітаўну, як ліпку, праспяваў на развітанне песеньку:

Ад бабулі я ўцёк,
Ад дзядулі я ўцёк,
І ад Клаўдзі я ўцёк,
І ад Жаны я ўцёк,
І ад Ванды я уцёк,
Ад траіх дзяцей уцёк
І ад цябе, Мядзведзева, уцяку...

І ўцёк.

Гуляў, гуляў Калабок па белым свеце і сустрэўся, нарэшце, з Аленай Рыгораўнай Ліціцынай.

— Такую дзяўчыну, як вы, — запеў звыклае для сябе Калабок, — я шукаў усё жыццё.

— А я ж вас як шукала, даражэнькі вы мой, родненькі,— адказала расчуленая Алена Рыгораўна, старшы лейтэнант міліцыі. — Год пяць шукала!

На гэтым і казачцы канец.

**Віктар Шаўчэнка**



— *Адкуль я ведаю, хто гэта зрабіў, можа, хтонебудзь хацеў зайсці сюды?*

# НІЎКА



### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Ён быў зусім яшчэ пачынаючым грабежнікам. Ён накіраваў пісталет на ахвяру і сказаў:

— Рукі ўгору або...
— Што — або?
— Не збівайце мяне, гэта мая першая работа...

✲

У кніжным магазіне.
Пакупнік:
— Ёсць у вас кніга „Як стаць багатым за тры месяцы"?
— Зразумела, сэр. Ды я б параіў купіць яшчэ адну.
— Якую?
— Крымінальны кодэкс.

✲

Два ўзломшчыкі арудуюць у чужой кватэры. Раптам раздаецца пранізлівае выццё сірэны.

— Паліцыя! Скачы хутчэй у акно!
— Ты што? З трынаццатага паверха???
— Скачы, скачы, цяпер не да забабонаў!

### РУХ

— Нешта ты вельмі многа ездзіш на сваёй аўтамашыне, — здзіўляецца сябар дырэктара Дынамюка.

— Што зробіш! — адказвае дырэктар. — Доктар прыпісаў мне многа рухацца.



— *Вы ж не крычыце, калі тое ж робіць ваша жонка!*



**...Сем разоў прымерваўся, а адрэзаць не далі.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## JESTEM TYLKO DZIEWCZYNĄ

**słowa: Paweł Wohl**
**muzyka: Krzysztof Krawczyk**
**śpiewa Halina Żytkowiak**

Pejzaż nam się rozkołysał
nasze myśli popielate
nasze sny, jak puch rozwiane,
przeminęły razem z latem
Teraz wiosna znów rozściele
naszych spotkań nić — w kobierce
po nich do ciebie ulotnię
niepoważne moje serce.

Jestem tylko dziewczyną
na wiosnę i na lato
co jest tego przyczyną
któż odpowie mi na to
jestem tylko dziewczyną
na wiosnę i na lato
ale z siłą zdwojoną
mogę kochać cię za to

Znów się rosą upijemy
zasadzimy w lasach grzyby
kosze malin ułożymy
zamieszkamy tam na niby
Gdy przyjdzie jesień złota
senność taka mną zawładnie
serce moje zatrzepota
i w zimowy sen zapadnie

Jestem tylko dziewczyną...



— *Калі на працягу трох дзён вы не прышлеце мне выкуп, я вярну вам жонку!*

# ГУМАР З

### НІЧОГА ДАДАЦЬ

**Суддзя.** Што вы можаце яшчэ дадаць для свайго апраўдання?

**Селянін.** Нічога, пане суддзя, бо апошнята чырвонца аддаў пісару.



— *Крыху шумнавата, затое ніякіх выхлапных газаў!*

### АДКУЛЬ ВЕДАЕ

— Тата, а хто гэты дзядзька, што стаіць на скрыжаванні? — пытае Міколка.
— Рэгуліроўшчык.
— А чаму ён рукамі размахвае?
— Паказвае, куды каму трэба ехаць.
— Адкуль жа ён ведае гэта?

### КВАТАРАНТ

На чыгуначнай станцыі міліцыянер затрымаў двух кішэнных зладзеяў і пачаў дапытваць аднаго:

— Дзе ты жывеш?
— Мой дом — гэта вагоны, — адказаў той.
— А ты? — звярнуўся ён да другога.
— А я ў яго на кватэры.

### СЛАБАЯ

— Чаму ты пастаянна паўтараеш плёткі? — пытаюць задрыпанку.
— А я сама не магу нічога выдумаць, — адказала тая.

# МІНІВЕРШЫ

### ЗМАГАР

Зладзеяў надта не выносіў,
А сам дзяржаўнае выносіў.

**П. Шыбут**

### АГРЭГАТ

Меў Панкрат свой агрэгат —
самагонны апарат;
задрамаў ля агрэгата, —
і згарэла яго хата.

**Лявон Пажарніцкі**

### АМБІЦЫЯ

Ён кідаўся ў амбіцыю
і трапіў у міліцыю,
а трапіўшы ў міліцыю,
згубіў сваю амбіцыю.

**Ціт Дружыннік**

# КУРЁЗЫ

### ПА-ТУРЭЦКУ

У паліцыю мястэчка Марыя — Брэтлах у Тыролі (Аўстрыя) паступілі скаргі ад грамадзян: у мясцовым рэстаране ім падалі „гуляш па-турэцку", які меў падазрона дзіўны смак. Паліцэйскі інспектар абшукаў рэстаран і ў садзе яго ўладальніка знайшоў шкуру і галаву аўчаркі Султан, якая знікла некалькі дзён таму. Паколькі „султан" — турэцкае слова, стала зразумелым, чаму і гуляш стаў турэцкім. Ініцыятыўны гаспадар зрабіў з аўчаркі 70 порцый.

### РЫБАК РЫБАКА

Перад судом стаіць рабаўнік Томас Хікмэн. Крыва ўсміхаючыся, ён дае паказанні:

— Так, я зрабіў узброены напад на банк і вынес адтуль 17.500 фунтаў стэрлінгаў, пры гэтым параніў дырэктара банка.

— Што яшчэ маецца ў вашым разбойніцкім актыве, падсудны? — пытаецца суддзя Мервін Грыффітс-Джонс.

— Яшчэ адзін узброены напад...

— Ясна, — спяшаецца суддзя. — Я вам веру...

Калі ж прачыталі прыгавор, прысутная публіка вушам сваім не паверыла. Па англійскіх законах рабаўнікам банкаў прынята не менш трох гадоў турэмнага зняволення, а тут адпетаму бандыту Томасу Хікмэну „ўпяклі" два гады турмы... умоўна.

Хутка гэтая загадка судзейскай мяккасардэчнасці высветлілася. І суддзя, і падсудны ў свой час скончылі адну і тую ж арыстакратычную Ітонскую школу, потым абодва былі афіцэрамі аднаго і таго ж арыстакратычнага гвардзейскага палка.

Так што — аднаго поля ягады...



**Калі на зладзеі гарыць шапка — не хвалюйцеся: ён украдзе іншую.**